http://www.navinki.irex.minsk.by

# НАВІНКІ

15 - 25 студзеня 2001 №1(39) Кошт свабодны

Палітыка праз прызму сэкса-паталёгіі. Стар.2



Зубар ці карова? стар.3



Асновы лукашызму-мантэск'еізму. Стар.4-5

ДэЦл і Пугачова: Якія шанцы? Стар.6

Гіронія лёсу,




Зь лёгкай парай-2

Комікс на стар.8




# Водар Міленіюму

Чым пахне Новы Год? Хвояй? Грыльяжам і мандарынавымі коркамі? Якая ты наіўная. Прытарным дэзадарантам Сьнягуркі? Не, пацан. Сапраўдны водар Міленіюму – гэта смурод урыны, крыві і едкай блявоціны пратэсту народных мас!

Такім чынам, у ноч з 31 сьнежня на 1 студзеня беларусы ў другі раз сустракалі Міленіюм. Традыцыйна празьмерна ўтрамбаваўшы свае ўнутраныя органы «Савецкім шампанскім», салатай аліўе ды іншай сялёдкай пад шубай, значная частка папуляцыі пацягнулася на сьветлавыя сыгналы гарадзкіх і раённых елак, каб павадзіць карагоды. Як вынік, за адну ноч гуляньняў у Беларусі было зьдзейсьнена каля сотні злачынстваў, сярод якіх 15 цяжкіх цялесных пашкоджаньняў (пры сярэднестатыстычнай норме ў 3-5 за суткі). У Горадні быў нават знойдзены жмур homo sapiens, апранутага ў кашэміравае паліто Дзеда Мароза. І гэта калі ня ўлічваць шматтысячныя дыягназы паламаных шнобэляў ды выбітых іклаў. Ня больш фатагенічным у тую ноч выглядаў і раўнамерна пакрыты бацыламі і страўнікавымі сокамі манумэнт «Пачатку беларускіх дарог» каля елкі-канструктара на Кастрычніцкай плошчы сталіцы.

Жахлівая статыстыка занадта бязглузда кантрастуе з афіцыйным стэрэатыпам «памяркоўнага» беларускага нораву. Няўжо кожны Новы Год нейкі д'ябальскі нэйрахірург часова атрафіруе ў беларуса цэнтры талерантнасьці і законапаслухмянасьці ды казыча ўягоную залозу сьвінячай жарсьці да гвалту, апаганьваньня й членашкодніцтва? Куды глядзяць улады? Па адказ зьвернемся лепш да архіваў структурнай антрапалёгіі.

У аднаго з плямёнаў народнасьці вуканаджапары, што на поўдні Мікранэзіі, вельмі цікавы звычай.

(На стар.4)

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс **63439**. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 15.01.2001г., а 00.01. Тыраж 5600 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ПП «Мэджык», г. Менск, вул. Кнорына, 50. Заказ № 48

## Як разумЕць
### (з пункту гледжаньня Тэорыі сэксуальнасьці)

**...Навагодні заклік *Нашай Нівы*: «Чытай сваё! Слухай сваё! Кахай сваё!..»**

Паводле Жыгімонта Фрэйда кожны чалавек першапачаткова двухполая істота як у псыхалягічным, гэтак і фізыялягічным пляне. У працэсе разьвіцьця большасьць людзей спэцыялізуе сваё лібіда. Але ня ўсе. Частка людзей захоўвае няпэўнасьць полавага самавызначэньня. Іх называюць гермафрадытамі. Дзякуючы наяўнасьці органаў М і Ж, некаторыя могуць уступаць у полавыя сувязі самі з сабой. Астатнім (г.зв. псыхалягічным гермафрадытам) застаеца задавальняца фала- і вульваімітатарамі ў формах: як рэальна-гумавых, гэтак і ўяўных – літаратуры, мастацтве, палітыцы... Вось прыклад: нам чужога не патрэбна – крэда правага эбдамадэра *Наша Ніва*. Рэдакцыя лічыць, што самазадавальненьне павінна праяўляцца ўва ўсіх галяктыках існаваньня гома аўтаномуса: музыцы («Слухай сваё!»), літаратуры («Чытай сваё!»), нарэшце, сэксе («Кахай сваё!»). Калі першыя два запаветы рэалізаваць ня цяжка: накрэмзаў – пачытаў, награў – паслухаў, то з полавым жыцьцём у пасьлядоўнікаў *НН* напэўна могуць быць праблемы. Самастойна адарыць каханьнем свой дзетародны орган, не абмяжоўваючы сябе архаічным ананізмам, цяжка. Надзею на самасавакупленьне даюць дасягненьні біялёгіі: прыём гармонаў дапамогуць недагермафрадытам упершыню атрымаць супэраргазм.

**...Новую чоху Прэзыдэнта. Мала хто заўважыў, слухаючы передавагодні маналёг А.Р., што бацька радыкальна падправіў хаер: замест імпліцытнай (прыхаванай) лысіны прэзыдэнцкае чало ў год Зьмяі ўпрыгожвае эксплліцытная (адкрытая) лысіна.**

Паводле Эрыха Фрома эпіляцыя валасянога покрыва сымбалізуе зьняцьце комплексаў, задаўленых патрабаваньнямі супэрэга (тут трэба разумець грамадзтва або электарат). Аголены скальп Прэзыдэнта – гіпэрбала разьняволеньня палітычнай сэксуальнасьці: тое што раней спарадычна вылазіла ў выглядзе цікаў, жэстаў ды імправізаваных адыходаў ад тэксту спічрайтэра, сёньня з гікам ізьверглася на волю. Напрыклад, тэма сувэрэнітэту. Яшчэ ўчора казаць пра любыя індэпэндэнцкія рэчы лічыліся апазыцыйнай ерасьсю. Аднак, як толькі Прэзыдэнт выйшаў з цырульні, усё кардынальна зьмянілася: «Галоўным здабыткам беларусаў у мінулым стагодзьдзі зьяўляецца незалежнасьць», – адмарозіў Лукашэнка за хвіліну да прыходу мілёніюму. Тая ж мутацыя адбылася ў дачыненьні да рыначных рэформаў. Прэзыдэнт быццам забыўся пра тое, што ў вачах усяго цывілізаванага сьвету ён – «фундамэнтальная посткамуністычная мумія». У якасьці навагодняга падарунку беларусам, Санта-Лукас падклаў пад ялінку новыя тарыфы на камунальныя паслугі. Дыягназ мазгаведаў: ППРБ перажывае фазу полавай рэмісіі, званае ў народзе «мужчынскім бабіным летам». Трэба чакаць ад яго далейшага раскрыцьця лібіда, індыкатарамі чаго стануць новыя зьмены зьнешняга іміджу.

**...Прэтэндэнтаў у кандыдаты на Прэзыдэнтаў стул. Маштабы дэмпінгавага выкіду кандыдатаў на палітычны рынак пабілі ўсе прагнозы. Галоўны ўнутраны ўзбуджальнік іх кандыдацтва, як яны самі кажуць, выключна высакародны – зьвергнуць дэспата і вывесьці Радзіму на арбіту дэмакратычных мэтамарфозаў.**

Аднак паводле Вільгельма Райха жаданьне нэйтралізаваць (у палітычным сэнсе: забіць) асобу, якога грамадзтва ўважае бацькам, можна лічыць праявай інфантыльнага комплексу Эдыпа. Галоўны флюід, які точыць лібіда альтэрнатыўных кандыдатаў – сэксуальная траўма ў форме рэўнасьці да маці-Беларусі, якая гуляе з бацькам. Кандыдат, які лічыць сябе любімым матчыным чадам, ня можа дараваць ёй здрады і б'ецца галавой аб бардзюр быццам Атэла. Кандыдат патрабуе прэрагатывы ў згвалтаваньні цела маці, не разумеючы, што ён яшчэ сасунок, па гадах і па розуму не сасьпелы да ўзроўню бацькавых вычварэньняў.

# No Future!

*Васіль Быкаў пранікся дэпрэсіўнымі ідэямі Вішэза й Кабэйна. Гэта можна зразумець зь ягонага апошняга інтэрвію.*

Апошнім часам у якасьці традыцыйных навагодніх падарункаў рэкляма ўцюхвае парфумэрную бутафорыю, што a priori патрэбна чалавеку, як юдзею скрайняя скурка. Напрыклад, Васілю Быкаву – Гамэру беларускай бэлетрыстыкі – на Каляды ў зацьвярдзелы насок трэба класьці не набор геляў для душу, а пакунак таблетак антыдэпрэсантаў. Пісьменьнік знаходзіцца на мяжы суіцыдальнага членашкодніцтва – да такой высновы прыходзіш, аналізуючы ягоную сьвежую маляву зь Нямеччыны:

**«Маральна-эканамічнае падзеньне ўсё глыбей, усё мацней, надзеі ўсё менш... Ці варта гробіць жыцьцё на пераадоленьні сьцяны, калі пераадолець яе практычна немагчыма... Ад нядаўніх ілюзіяў не засталося й сьледу. Ад адухоўленьня таксама... Мы даўно разьвіталіся з пэрспэктывамі. Можа гэта й добра».** (*БДГ* ад 5.01.01).

Уявіце душэўны дыскамфорт чалавека і гнятлівы антураж, пры якіх можна загнуць такое. Перад вачыма праплывае наступны ґештальт: абняўшы газавую пліту Siemens, гаражны панк Васіль удыхае злавонныя міязмы камфоркі. І адначасова праклінае хахлоў, якія паслабляюць напор газу ў Нямеччыну, тырачы ў Газпрома энэрганосьбіты.

Для нашай сутулай лібэральнай інтэлігенцыі глыбішча Быкава азначае тое ж, што для фэтышыста трусікі з рушачкамі ад фірмы «Мілавіца». Нічога дзіўнага, што на бэдэгэшнага інтэрвіюэра Быкава, нейкага С.Шапрана, па ходу размовы накаціў экстаз чалабіцьця. Калі б аўтар «Знаку бяды» загадаў ахвяраваць на алтар свайго культу галоўнага рэдактара *БДГ* Марцава, журналіст напэўна акрапіў бы любімага ідала крывёй усіх сябраў рэдакцыі. Без павадыра беларуская буржуазія, як той бомж без даведкі, якога не пускаюць пагрэцца на вакзалы. Для понту ёй патрэбны нацыянальны second hand Салжаніцына, які б хадзіў па асфальце босым, гладзіў дзетак па галоўках і вучыў народ, як трэба жыць. Акрамя Быкава ў гарачай дзясятцы прэтэндэнтаў на стаўку патрыярхаў нацыі адны статысты – Бураўкін, Гілевіч і Вішнёў.

Каб перасьцерагчы ранімую псыхіку інтэлігентаў ад духоўнага сіроцтва, трэба гной з носу вырваць вяроўку і мыла з быкаўскіх рук, на якіх напэўна ўжо не засталося ніводнай непапіленай вены. З гэтае нагоды *Навінкі* арганізуюць збор калёсаў і транквілізатараў для жраца беларускай літаратуры. Сьпяшайцеся ўнесьці сваю лепту ў сьвятую справу выратаваньня апостала нашай культуры. Памятайце: адной таблеткі недастаткова!




Пасьля апошніх інструкцыяў В.Быкава ў *БДГ*, шэрагі ягоных фанатак радзеюць...

Эдуард Скобелеў

# Бунт – справа модная



Наконт прычынаў бунту на Віцебскай малалетцы «незалежныя» пісакі пырскаюць сьлінямі ўжо больш за тыдзень. Фантазіям некампэтэнтных славаблудаў паклаў канец Дзьмітры Партон, прэс-сакратар МУС. У інтэрвію *Белорусской газете* (№2 ад 15.01.2001) знаўца дзіцячай душы ахарактарызаваў турэмныя барыкады выключна як... **«падлеткавае самавыражэньне»**. Сапраўды, у той час, калі ў маладзёвым асяродзьдзі няспынна вылупляюцца тусоўкі з арыгінальнымі спосабамі самавыражэньня (хіп-хоперы, блэкеры, срэйт-эджэры і г.д.), «малалетнія злачынцы» таксама не жадаюць адставаць ад павеваў стагодзьдзя. Гэтак, відаць, нарадзілася турэмная субкультура «бунтмэнаў». Д.Партон аргумэнтавана даводзіць, што новыя нефармалы вызначаюцца непрыняцьцем нормаў мяшчанскага камфорту, які ім навязваюць адміністрацыя калёніі: занадта калярыйная ежа, прагулкі на сьвежым паветры, заняткі строевымі сьпевамі, рэлігійныя сустрэчы: **«Калі зь імі спрабавалі завесьці размову служыцелі царквы, у адказ іх пасылалі матам на тры літары».** Ад іншых дзяцей «бунтмэны» адрозьніваюцца яшчэ й спэцыфічнымі забавамі, сярод якіх, паводле Партону, галоўнае месца займае «турэмны бунт» (прыкладна як «выезд» для футбольных фанатаў). Замест таго, каб шукаць палітычныя і сацыяльныя матывы праказам падлеткаў, ці ня лепей было б уключыць бяскрыўдную субкультуру «бунтмэнаў» ў дзяржаўныя культурна-выхаваўчыя праграмы, будаваць у турмах спэцыяльныя бунт-пляцоўкі, куды юных вязьняў раз на тыдзень вадзілі б строем, а лепшых віртуозаў бунту ўзнагароджвалі вымпеламі БПСМ і паказвалі б у праграме 5Х5. І ніякіх беспарадкаў

# Міжнародная панарама

**ЗША**
У чацьвер у Лос-Аламасе – буйнейшым у ЗША цэнтры па распрацоўцы ядзернай зброі – быў арыштаваны 21-гадовы Дж. Хэкенкампф. За неаднаразовыя ўзломы кампутарных сыстэм цэнтру хакеру сьвеціць 85 гадоў турмы і штраф у 4 млн.$. Жадаем юнаку хутчэй папрасіць беларускае грамадзянства, каб згодна новаму Крымінальнаму кодэксу адседзець у нас усяго 25 год. І магчыма нават адкінуцца жывым.

**ЗША**
Фармаваньне кабінэту Буша-2 завершылася зьняцьцем з пасады сьвежа прызначанага міністра працы Лінды Чавэс. Што цікава, зьнялі яе за дапамогу незаконнай мігрантцы з Гватэмалы, якую яна па злосным навеце зьбіралася задарма эксплюатаваць. А слабо старшыні МЗСу Хвастову прытуліць у сябе адзін-два вывадкі нелегалаў-пуштунаў?

**ЧАЧЭНІЯ**
У Чачэніі скрадзены амэрыканец-супрацоўнік Міжнароднай Гуманітарнай Арганізацыі «Лекары бязь межаў» Кэні Глюк. Арганізацыя «Лекары бязь межаў» паведаміла, што не зьбіраецца выкупляць свайго сябра. Застаецца пытаньне: а ці быў глюк на самой справе?



**ЭКВАДОР**
Працягваюцца антыўрадавыя выступы мас у Эквадоры, выкліканыя скарачэньнямі дзяржаўных субсыдыяў, пасьля якіх паднялся кошты на газ і нафту. Гэта пачалося з школьных і студэнцкіх маніфэстацыяў супраць рэзкага павелічэньня кошту на праезд у транспарце, што прывяло да сутычак з паліцыянтамі, падпалу аўтобусу. 10 студзеня дэманстранты абкружылі прэзыдэнцкі палац сталіцы Кіта. Цікава толькі, якім чынам інсургенты зьбіраюцца атакаваць будынак свайго Нацбанку, які ўжо паўгады як знаходзіцца... ў Вашынгтоне.

**ТУРЦЫЯ – НІГЕРЫЯ**
Падчас апошняга месяцовага зацьменьня турэцкая моладзь учыніла беспарадкавую пальбу з дубальтовак па нябесным сьвяціле. У той сама час азначаная прыродная зьява пабудзіла на супрацьзаконныя дзеяньні і жыхароў Нігерыі. З гікам «Алах акбар!», яны кінуліся граміць пітныя ўстановы. У выніку былі разгромленыя 40 рэстарацыяў, бараў і піўнух. У чарговы раз мы можам упэўніцца ў правільнасьці старажытнай піянэрскай прыказкі: «Цемра – сябар моладзі».

**ІСЛАМСКІ СЬВЕТ – БЕЛАРУСЬ**
Дзеля ўмацаваньня міжнародных сувязяў Асама Бін Ладэн практыкуе выкарыстаньне шлюбных кантрактаў: 3-я жонка Асама – дачка еменскага лідэра, сын ажаніўся на дачцы эгіпецкага тэрарыста. Можа стацца, што наступнай жонкай Бін Ладэна стане чачэнка з тэйпу Басаева. Узгаданы прыём паспрыяў бы вырашэньню праблемаў розьні ў дэмакратычным руху Беларусі. Напрыклад, каханка Шушкевіча магла б выйці замуж за лідэра Маладой Грамады, а сыны Пазьняка закадрыць суседку Вячоркі. У сямейным коле ўсё ж лягчэй вызначыць адзінага кандыдата ад апазыцыі.

# Песьня пра зубра
## на матыў «Дойчлянд-Дойчлянд...»

*«Целам, паводле іх слоў, казёл ён кудлаты і толькі*
*Члены ж калі разглядаць, то не казёл ён, а бык...*
*Словам, ня мой гэта зубр, іхны, напэўна, бізон»*
*(М.Гусоўскі «Песьня пра зубра»)*

Некалі, у XVI-м стагодзьдзі, хіт лацінскамоўнага шансаньє Міколы Гусоўскага зрабіў зубра сымбалем Беларусі. Як моладзь, гэтак і больш сталыя мэляманы ўбачылі ўва ўсьпетым сьмярдзючым жвачным люстэрка мэнтальнай дамінанты нашай нацыі: *«Права на ўладу бярэ, хто самы прыгожы і моцны... Лётае хцівец-гурган, бегае зьвер-жывадзёр...»* Сёньня выява рагатай жывёліны паўсюль: на шэўронах вялікадушных міліцыянтаў, эмблеме Менскага ордэна Леніна мясакамбінату, майках ваяўнічых гульцоў у амэрыканскі футбол, этыкетках агрэсіўных сьпіртавых напояў і ў назвах аздараўляльных лягераў рэспубліканскага значэньня. Зубар – яшчэ і лепшы матыль на тлустых турыстаў, ласых да экзатычных рудымэнтаў дзікай прыроды ў «сьнежнай барбарскай краіне».

Між тым, над беларускай манаполіяй на статус псыхалягічнай рэінкарнацыі продка сучаснай каровы ўжо больш за паўстагодзьдзе вісіць пагроза дэфолту. Да такой высновы нашых экспэртаў прывяла інфармацыя польскай *Gazeta Wyborcza*. Згодна прафэсару заалёгіі Зьдзіславу Пуцку, які займаецца актуальнымі праблемамі зубрагадоўлі, апошнім часам эўрапейскія заапаркі запаланілі фантастычныя пачвары, як дзьве партыі «Аліварыі» не падобныя да нашых белавескіх волатаў-зьвяроў. Што, тым ня менш, не перашкаджае заходнім сэлекцыянэрам называць сваіх істот... «зубрамі, якія ёсьць рэзультатам генэтычнай рэканструкцыі, зьдзейсьненай нямецкімі вучонымі ў 20-30-х гадах» (www.vetnantes.fr./ENVN/aurochs.htm). Больш за тое, нядаўна нямецкія «рэканструктары» прапанавалі польскаму Міністэрству аховы прыроды г.зв. «праект TNT» (Tourisme, Nature, Tradition). Ён прадугледжвае распаўсюдзіць «зуброў» у польскіх запаведніках, спачатку ў Мазовіі, а потым і ў Белавескай Пушчы (падзеленай, дарэчы, паміж РП і РБ).

«Хто ж тады дагэтуль чаўкае канюшынай у Пушчы?!» – апупее чытач. Расчаруем: апошняя самка зубра сапраўды памерла ад шаленства ў 1620 годзе ў Рэчы Паспалітай ва ўзросьце 30 гадоў. Быкі, якіх мы прызвычаіліся бачыць у нашых нацыянальных парках – проста імпартныя бізоны, гэтак жа адрозныя ад гістарычных зуброў, як індыйскі слон ад свайго афрыканскага лапавухага братана. Здавалася б, нам бы толькі радавацца апошнім ініцыятывам нямецка-польскіх заолягаў. Нават енчыць ад шчасьця, калі б за «ўзноўленым зубрам» не стаяў цэлы шэраг фальсыфікацыяў, навуковых і гістарычных.



**Нехта на Захадзе ўсё яшчэ выношвае пляны заалягічнага рэваншу, заражаючы нашых жывёл карычневай чумкай.**

Як аказалася, у якасьці «зубра» іншаземцы жадаюць прышчапіць на польскай зямлі г.зв. «карову Гека», атрыманую ў 30-я гады нацыстамі шляхам простага спароўваньня розных пародаў жвачных. Парадаксальна, але зубар меў для нямецкіх фашыстаў бадай такую ж татэмную значнасьць, што і для беларусаў. Высакародны, але, галоўнае, агрэсіўны і дзікі, зубар найлепей пасаваў да ідэалёгіі гітлераўскага арыйца-юбэрмэнша (паколькі іншы сымбаль тэўтонаў – кентаўра аднавіць было складана). Сэлекцыя нямецкага заоляга Гайнца Гека павінна была рэалізаваць блакітную мару фюрэра: узнавіць мітычны сымбаль германскай расы. Заставалася мізэрная праблема: ніхто ня ведаў дакладнага апісаньня рагатага волата. Гэта не пужала новы нямецкі ўрад, які паставіў вытворчасьць атрыманых парнакапытных франкенштэйнаў на канвэер. У 1941 годзе дванаццаць нацысцкіх дэгенэратаў паступілі ў акупаваную Белавежу. Куды яны дзеліся пасьля вайны, ня ведае ніхто з простых сьмяротных.

Аб нацы-зубрах усе забыліся да тых часоў, пакуль Мюнхенскі заапарк (адзінае месца, дзе яны захаваліся) ня вырашыў зьдзейсьніць новы «паход на Ўсход». Ад мысьлі, што «гітлераўская карова» можа ўжо сёньня бязьлітасна гвалтаваць бізоніх нашых лясоў (а ў Пушчы для жывёл не йснуе дзяржаўных межаў), валасьня ўстае пісталетам. У гэтым выпадку мы можам сказаць толькі адно: да тых часоў, пакуль мы ня вынішчым апошняга нацысцкага вырадка на беларускай зямельцы, у якім бы абліччы ён да нас ні прыходзіў, Вялікая Айчынная вайна ня скончаная ●

**Людвіг фон Мясушка**

# Мін*і*стар – фул*ю*ган
## *або як стаць міністрам замежных справаў*



Гэта – Ёшка Фішэр, міністар замежных справаў ФРГ.



А гэта – Ёшка Фішэр, лявак і палітычны адмарозак.

Маладосьць міністра замежных справаў Нямеччыны, лідэра экалягічнай партыі Зялёныя/Саюз-90 Ёшкі Фішэра прайшла ў баях з сыстэмай. Сярод ягоных былых корышаў заўважаныя славутыя левыя тэрарысты 70-х. Сёньня былы стрытфайтэр паабуздаў свой лявацкі нораў і нават намагаецца выпраўляць некаторыя «памылкі маладосьці». На мінулым тыдні Ё.Фішэр публічна папрасіў прабачэньня ў паліцыянта, якога некалі гэтак смачна пярдоліў на адной з антыкапіталістычных дэманстрацыяў. (Гэты некалі супрацьпраўны выпадак злавіла камэра фотакара часопісу *Stern*.)

Як кажа нямецкая народная прымаўка: «Добра прабачацца, калі ты – бундэсміністар». Таму досьвед былога палітычнага адмарозка-Ёшкі можа спатрэбіцца тым, хто марыць падсядзець у будучым месца Хвастова, міністра замежных справаў РБ.

**Да ўвагі студэнтаў дзённага аддзяленьня факультэту міжнародных зносінаў! Пераймайце перадавы заходні досьвед!**

1. «О-ба-на!» Ёшка (справа ў чорным шлеме) рыхтуецца да схваткі з паліцаем.
2. На падмогу Ёшку пасьпяваюць таварышы па антыімпэрыялістычным супраціве.
3. Увага: напад на паліцая (крымінальны артыкул!). Ёшка хапае копа за грудкі і...
4. Страж правапарадку атрымлівае па поўнай праграме. Вырашальны момант: Ёшка наносіць каронны ўдар кулаком па паліцэйскім карку.
5. Паліцая завальваюць і валтузяць нагамі. Праз хвіліну нападнікі ўдала звальваюць ●



1



2



3



4



5

## КАзус
### У беларусаў – новы ўрад.

**«Мы знаходзімся ва ўмовах своеасаблівага «разнаўладзьдзя»: у нас ёсьць два ўрады – афіцыйны і «ўнутраны», які складаецца акурат з тых, хто прысьвяціў сябе Беларусі: з Скарыны, Каліноўскага, Багушэвіча, Купалы, Коласа, Багдановіча».** (*БДГ* №3 ад 10.01.2001г.)

Можна падзівіцца глыбокай недасьведчанасьці паэта Алеся Разанава, бо кожнаму мала-мальску ангажаванаму ў палітыку чалавеку вядома, што Беларусь мае ня два, а як мінімум чатыры ўрады: акрамя Саўміну Ярмошына ды «ўнутранага ўраду», мы маем яшчэ «ценявы кабінэт» апазыцыі ды эміграцкую «Цэнтральную Раду БНР» на чале з івонкай Сурвілай. «Ну, з апазыцыяй і эміграцыяй зразумела, а што за «ўнутраны ўрад» такі?» – спытае чытач. Унутраны ўрад Беларусі дзейнічае на тым сьвеце. Згодна апошнім кадравым ракіроўкам, партфэлі ў ім размеркаваныя наступным чынам: Ф. Скарына – міністар адукацыі, К. Каліноўскі – міністар абароны, Ф. Багушэвіч – прэм'ер-міністар, Я. Купала – кіраўнік Рады Бясьпекі, Я. Колас – міністар унутраных справаў, М. Багдановіч – генэральны пракурор. Але хто ж унутраныя выбаршчыкі і як гэты ўрад суадносіцца з «жывымі»? Адказвае ўнутраны доктар юрыдычных навук А.Коні (1848-1912): «Кожны грамадзянін Беларусі, «паміраючы», адыходзіць пад юрысдыкцыю ўнутранага ўраду і адпаведна бярэ ўдзел у фармаваньні ўнутраных структур кіраваньня. Каб пазьбегнуць некаторых непрыемнасьцяў пры трапленьні на «нябёсы», пражываючыя ў гэтым сьвеце павінны загадзя ўзгадняць свае паводзіны з палітычнай кан'юнктурай на тым сьвеце. Напрыклад, там існуе апазыцыя Абэцэдарскага, Маўра, Чорнага і інш. Таму кожны ляяльны грамадзянін зацікаўлены ў правільнай арыентацыі ва ўнутранай палітыцы яшчэ пры жыцьці. Толькі ў гэтым выпадку ён можа спадзявацца на посьпехі ў патустароньняй кар'еры»

## РэзанАнс
### За незалежнасьць Прынёманьня!

Прывітаньне, шаноўная рэдакцыя. У адной з апошніх перадач «Тайныя спружыны палітыкі» я ўпершыню пачуў пра гарадзенскі сэпаратызм і ідэю «прынёманскай рэспублікі», сфармуляваную А.Азаронкам. Гэтая ідэя перавярнула мой кругагляд! А праўда ж, калі б мы (то бок Гарадзеншчына) аддзяліліся ад вас (СНД, РБ і інш.), то й праблемам нашым прыйшоў бы канец. Варта хаця б цьвяроза прааналізаваць народную гаспадарку краю.

На Гарадзеншчыне дастатковая колькасьць заводаў і фабрык для самастойнага разьвіцьця эканомікі. Прыпомнім хаця б такія перадавыя прадпрыемствы, як Хімвалакно, Гарадзенскі піўзавод, Тытунёвая фабрыка, завод токарных патронаў. А наш «Азот», дзякуючы свайму экспарту, корміць усю Беларусь разам Прэзыдэнтам і Нацыянальным сходам. Ужо каторы год Гарадзенская вобласьць перавыконвае нормы пасяўной і ўборачнай кампаніяў. Калгасы нашае вобласьці заўжды былі й будуць перадавымі, бо працаваць гарадзенцы любяць і ўмеюць. Адным цукровым бураком мы можам закідаць паў-Эўропы. Нашыя рынкі (грандзіцкі, прывакзальны і інш.) зьяўляюцца галоўным пераваламным пунктам тавару з Усходу на Захад і наадварот. Адна мытная пошліна з чаўночнага бізнэсу магла б пракарміць усіх пэнсіянэраў вобласьці. Нарэшце, у нас найлепшае раённае тэлебачэньне, і калі б мы сталі незалежнай Прынёманскай Рэспублікай, то розныя там «снікерсы» і «тампаксы» так засыпалі б нас рэклямай, што тэлебачаньне стала б самаакупальным, сам Дарэнка вывучыў бы гарадзенскую гаворку (якая была б абвешчаная дзяржаўнай моваю Прынёманьня), каб толькі працаваць на ім стажорам на паўстаўкі.

Таму цяпер я лічу, што ўсе разумныя людзі Гарадзеншчыны павінны аб'яднацца пад штандарамі сэпаратызму. Высока, браткі, уздымем над краем нашым прынёманскім вокліч свабоды й незалежнасьці! Перафразуючы нашага выбітнага зёмка К. Каліноўскага, скажу: «Толькі тады, дзецюкі, воля будзе, калі РБ-шніка над намі ня стане!» ●

**Адам Азарыцкі,**
патрыёт Гарадзеншчыны

«Такая мазэр в жызні бывает толька раз!»

# Вясельле ў ДэЦла

Неверагодны посьпех моднага выканаўца хіп-хопу зялёнага падлетка ДэЦла б'е па ўсіх рэкордах папулярнасьці як канібал-Тайсан. Ролікі зь ягоным удзелам у навагодні пэрыяд круцілі адразу па ўсіх расейскіх каналах, выступіць зь ім у дуэце палічылі за вялікі гонар паханы расейскай эстрады. І гэта толькі верхняя частка айсбэргу. Разам з рабочымі момантамі шоў-бізнэсу на ДэЦла звалілася й яшчэ адна забота: інтэгравацца ў музычны бамонд, з усімі ягонымі інтрыгамі, раманамі й скандаламі. Не абмінула гэтая чаша й нашага другагодніка.



Непасьпеў ДэЦл зьявіцца на «Калядных сустрэчах», як адразу загаварылі пра ягоную сувязь з... прымадонай Алай Пугачовай! Падкая да малажавых волскіх балгар і выканаўцаў турэцкага фальклёру Ала Барысаўна, вядома, не магла абмінуць увагай гэтага жаўтаротага мальца, якога, што праўда, сьмела можна залічыць ёй у праўнукі. Алею ў качагарку крыватолкаў пырснула й чутка пра магчымы развод прымадоны зь Філіпам Кіркоравым. (Апошняму ў віну ставіцца, дарэчы, празьмернае захапленьне хлопчыкамі.)

## Пэпсі, Ала, MTV. Абручайся-а, сам! Сам!

Наколькі рэальныя шанцы ў Пугачовай трэці раз выскачыць замуж і ці асьвеціць Алексій II шлюб зь нясьпелым падлеткам (а ДэЦлу ўсяго толькі 14 гадкоў)? Такімі пытаньнямі задаюцца сёньня ў маскоўскіх салёнах.

Па шчырасьці сказаць, прычына такой зацікаўленасьці фігурай ДэЦла ня проста ў спрадвечным пляткарстве папсавікоў. Тут трэба глядзець у самы корань сутнасьці шоўбізнэсу. У асобе ДэЦла расейскія варацілы шоў-бізнэсу бадай упершыню адкрылі для сябе такі залатаносны Клондайк як палеткавая культура («Ласковый Май» з Зэмфірай ня ў лік).

12-13-гадовыя аматары мыльнага сэрыялу пра Бівіса й Батхэда сапраўды доўга знаходзіліся ў генэрацыйным гета. Аднак сытуацыя сёньня кардынальна мяняецца. Згадзіцеся, ці рваў бы свае заслужаныя ягадзіцы дзед Кабзон у «зорным дуэце» з сасунком ДэЦлам за прыгожыя вочкі?

У тымсама ракурсе пракамэнтаваў чуткі вакол раману з Барысаўнай сам ДэЦл: «Трэба будзе – ажанюся! Мне толькі прыбудзе» ●

**Юры Шатуноў**

## МЫ і «пОты»

### «Як вы ацэньваеце шанцы ДэЦла стаць чарговым сужаным Алы Пугачовай?»



**Мао, будаўнік:** «Калі да паўналецьця ДэЦла Пугачыха не адкінецца, то гэта будзе ўзаемавыгодны саюз. ДэЦл можа вешаць бабу Алу на сваю тачку ў галалёд, каб труха зь яе пад колы сыпалася. Хаця я веру ў пластычную мэдыцыну».



**Дзіма, студэнт:** «Герантафілія – гэта ўжо ня так страшна. Гэта прыгожа, калі людзі любяць адзін аднаго. Але як больш дасьведчаны партнэр, Ала Барысаўна павінна першай прапанаваць кантрацэптывы».



**Паша, танцор этна:** «Гэта відавочна, што ў Пугачыхі новы бой-фрэнд. Апошні раз я бачыў іх на апошняй Каляднай сустрэчы на вечарынцы ў ДэЦла, і думаю, што без дуэлі з Кіркоравым тут не абысьціся».



**Шырлі, фотамадэль газэты *Навінкі*:** «Цалкам магу ўявіць сабе такую сытуацыю, бо сама трапіла ў падобнае становішча. У мяне новы сябар – тынэйджэр, які цягнецца ад My Dying Bride, а сам зьнешне падобны да ДэЦла. Калі я яму пра гэта сказала, ён пакрыўдзіўся, бо ДэЦл па ягоных панятках – гопнік».

## КінО

### Як стаць элітай.

Эліта! Як цяжка прайсьці рытуал дэфлярацыі ў сябры гэтай прадзьвінутай касты. Трэба ўвесь час захоўваць бясьпечную дыстанцыю ад смуроднага пралетарскага быдла, што калупаецца ў носе і рэжа вуха суфіксам «бля». Захаваць душэўную стэрыльнасьць і эўрапейскую патубаковасьць сёньня цяжэй, чым кінуць паліць. Культурным гандонам з вусікамі, што перасьцерагае індывідуума ад Сындрому Набытага Элітарнага Дэфіцыту зьяўляецца заходняе кіно. Глядзіш сабе замілавана нейкага Фасбіндэра, якога й пад градусам хрэн прасячэш. Адчуваеш як ін'екцыя з сыроваткай элітарнасьці ўваходзіць у плоць тваёй духоўнай ягадзіцы.

Прыкладна такі прыход атрымала наша эліта ад фільму Ларса фон Трыера «Тая, што танчыць у цемры». Усё ў Трыера пазначана таўром выбранасьці: адна дрыжачая камэра чаго вартая. Гэта вам не таранцінаўская агульнадаступная мача, сэнс якой нават любы птушнік зразумее: «Сыстэма гаўно! Мачы копаў!» Трыер – гэта сапраўднае эўрапейскае кіно, складанае і завумнае як тая тайская клінапісь. Ня дзіўна, што амаль усе беларускія газэты, не зважаючы на палітычны імідж, запісаліся ў дармовыя візажысты дацкага рэжысэра. Сёньня гэта самы верны спосаб памеціцца элітарнасьцю і эўрапейскасьцю. Як, ты яшчэ не памеціўся? Не марнуй часу!




## «Радыё БДУ»: слухай сваё!

«Алё, Дуб, як чуеш, прыём. Дыктую прынцып работы сынхрафазатрону...» Каму незнаёмыя гэтыя словы з камэдыі пра Шурыка?

Калі рэктар Казулін адчыняў «Радыё БДУ» напярэдадні зімовай сэсіі, ён у страшным сьне ня бачыў, як гэты факт адаб'ецца на жыцьці ў ягонай падведамаснай установе.

Напрыклад, працэнт пасьпяховай здачы залікаў пераваліў за ўсе магчымыя межы. Прынцыпы радыёсувязі з «Апэрацыі Ы...» сталі афіцыйна даступнымі любому алігафрэну. Трэба толькі настроіцца на хвалю любімай радыёстанцыі і – сьмела ў аўдыторыю!

«Па шматлікіх просьбах сяброў перадаем для Лены, што здае матаналіз на пятым паверсе, тэарэму Кашы з вывадам...»; «Сямён з групы 3-б просіць перадаць аднагрупнікам структурную формулу этыленгліколю.... »

Ды-джэі радыё БДУ (дарэчы, простыя студэнты) нясуць вахту па шаснаццаць гадзінаў у суткі. Кожны можа стаць аўтарам перадачы. У эфіры падымаюцца самыя вострыя пытаньні жыцьця ўнівера. Чаму папаша Казулін без папярэджаньня падымае плату за навучаньне, на фіга было рабіць эўрарамонт адміністратыўнага корпусу, калі сьцяпуха складае 10 баксаў, чаму студэнты журфаку павінны задарма ішачыць на будоўлі новага корпусу... Паседжаньні рэктарату йдуць у прамым эфіры.

Ну, як вам радыё? Праўда, супер! Абавязкова слухайце. Толькі ёсьць адна акалічнасьць: калі будзеце шукаць патрэбную частату, верагодна напорыцеся на нейкую падазроную пірацкую хвалю. Дзеля мэркантыльных мэтаў яна выкарыстоўвае папулярную назву «радыё БДУ – Юністар». Калічнае радыё, якое тупа косіць на ўсякія падобныя FM-праекты. Студэнцкага там столькі ж, сколькі на БТ эротыкі. Адна рэкляма, папса і ды-джэі, якія бачуць моладзь выключна як заклапочаных эратаманаў і пустагаловых спажыўцоў. Так што, не памыліцеся! ●

*Таёжны раман пагранцоў здольны выкінуць у асадак любога матастральца.*

# Воўкі, багна і аргазм

Пасьля прагляду тэлесэрыялу «Граніца: таёжны раман» у мяне, як у тэлевізійнага крытыка, засталіся два пытаньні, на якія я так і ня змог знайсьці адказ:

– ці можа чалавек (у прыватнасьці савецкі капітан Галашчокін) загрызьці зубамі ваўчыцу;

– ці магчыма атрымаць аргазм, калі цябе засмоктвае дрыгва (што яскрава прадэманстравала мэдсястра Альбіна ў бліскучым выкананьні акторкі Рэнаты Літвінавай).

Пытаньне аб тым, хто пераможа ў схватцы «воўк-чалавек» жарсна абмяркоўвалася ўва ўсіх працоўных калектывах сталіцы на працягу двух пераднавагодніх тыдняў. Прыгадваўся растыражаваны некалі савецкімі СМІ прыклад мужнасьці простай расейскай жанчыны, якая ў лесе сустрэла воўка й за язык прыцягнула яго ў вёску. Прыводзіліся таксама й адваротныя прыклады, калі ваўкі хапалі жанчын і цягнулі іх у лес. У выніку большасьць тэлегледачоў схілілася да высновы, што звычайны чалавек загрызьці ваўка ня можа, а вось савецкі капітан, служачы ў тайзе, проста павінен кожны дзень закусваць гарэлку ваўкамі. У нашых людзей такая моцная воля да жыцьця, што ёй маглі б пазайздросьціць і героі Джэка Лондана.

Адказаць на другое пытаньне было значна цяжэй з-за адсутнасьці якіх-небудзь вядомых прыкладаў і сьведкаў. Можа некаторыя й атрымлівалі той аргазм у дрыгве, але гэта была апошняя асалода ў іхным жыцьці. Аднак відавочна, што толькі жанчына ў поўнай меры можа атрымліваць аргазм пры засмоктваньні ў дрыгву. Калі капітан Галашчокін і маладзенькі лейтэнанцік Ванечка па чарзе трапляюць у багну – яны не чакаюць ад гэтага нічога прыемнага й сьпяшаюцца вызваліцца. Іншая рэч – гераіня Рэнаты Літвінавай. І справа нават ня ў тым, што на целе жанчыны знаходзіцца большая колькасьць чуйных да зьнешніх раздражняльнікаў эрагенных зон. Справа ў падсьвядомай празе чалавека да нечага невядомага і трансцэдэнтнага, што пагражае сьмерцю. А калі гэтае трансцэдэнтнае ў дадатак яшчэ й смокча, дык вось табе й гатовы аргазм.



Фэномэн «дрыгвотнага аргазму» прыкмеціў некалі й вядомы пісьменьнік-натураліст, клясык беларускай літаратуры Іван Мележ. Не здарма ж у ягоных «Людзях на балоце» Васіль Дзятлік і Ганна Чарнушка гуляюць у свае сэксуальныя гульні не на калгасным сенавале, а менавіта сярод палескай дрыгвы.

Акрамя эзатэрычных матэрыяў сэрыял закранае й сур'ёзныя праблемы аховы прыроды. «Таёжны раман» – гэта цудоўны наглядны дапаможнік як па заалёгіі, гэтак і па біялёгіі з прыродазнаўствам. У забаўляльнай форме фільм знаёміць маладога тэлегледача з флёрай і фаўнай Далёкага Ўсходу, на адмоўным прыкладзе вар'яцкага зьнішчэньня савецкім афіцэрствам дзікіх ваўкоў вучыць любіць жывёл. Хочацца зьвярнуцца з падзякай да кіраўніцтва ОРТ: паболей такіх сэрыялаў, таварышы! Толькі так мы выхаваем новае пакаленьне ў духу беражлівых адносінаў да навакольнага асяродзьдзя ●

**Сьляпы П'ю,** тэлекрытык

*Пад вуглом 40°*

# Беларусы і гарэлка

## *100 пытаньняў і адказаў сапраўднай гісторыі Беларусі*



«Уся гісторыя Беларусі ёсьць трансцэсіўная экстрапаляцыя алькагольных сындромаў на грамадзка-палітычныя працэсы».

Горкі асадак пакідае ў душы стан гістарычнай навукі. У той час, калі расейцы ў асобе Фаменкі і Кандыбы раскалупалі ў летапісах, што Ісус Хрыстос насіў картуз, выстукваў на лыжках «Калінку» ды спаў на палацях, беларускія гісторыкі дасюль заклінаюць старых шаманаў. Ґурманы твораў славянафіла Абэцэдарскага цягнуць песьню аб тым, што інстынкт самазахаваньня нашай нацыі – набіцца ў родзічы Маскве. Іхныя апанэнты (Сагановіч, Арлоў) эпатуюць вэтэранаў вайны й працы гіпотэзай, быццам карэньні нашага радаводу пятляюць у прускіх дзюнах і на балцкіх стойбішчах. Аднак колькі б ні грызьліся дзьве гістарычныя школы, імі ігнаруецца эсэнцыя гістарычнага лёсу беларуса – алькаголь.

Пра значнасьць алькагольнага аспэкту сьведчаць шматлікія тапонімы, якія сустракаюцца на тэрыторыі Беларусі: вёскі Бухалава, Бухалаўка, гарады Прапойск (перайменены маскоўска-бальшавіцкімі акупантамі ў Слаўгарад), Старыя Дарогі (названы ў гонар славутага самагону), рака Прыпяць (ад «прапіць») і шмат іншых. Прааналізаваць гісторыю нашай Бацькаўшчыны праз прызму бінарнай апазыцыі *гарэлка–беларус* – неадкладнае заданьне для любога сучаснага навукоўца. Менавіта тут схаваны стос калектыўнай ідэнтычнасьці, грамадзянскага кансэнсусу, на які можа абаперціся нацыя, без падзелу на чырвона-зялёных і бел-чырвона-белых. Гэтую гістарычную місію ўзвальваюць на свае плечы вашыя *Навінкі*.

### 1. Якімі былі нашыя продкі?

Ужо ў глыбокай старажытнасьці ў Беларусі жылі розныя, пераважна балцкія плямёны (ад індаўэрап.: *buttle* – бутэлька), а пазьней сюды прыйшлі славяне (першапач. «асалавяне» ад слова *асалавелы* – п'яны, хмяльны). Самымі інтэлігентнымі сярод продкаў беларусаў было племя, якое акупавала паўднёвы ўсход нашай краіны. Усялякі раз, калі яны бухалі, яны бухалі зь якой-небудзь нагоды або, як казалі ў старажытнасьці, «радзі чаго-та», таму іхныя плямёны і называлі «радзімічы». Ня дзіўна, што з такім патэнцыялам, яны ня здолелі стварыць інстытуты дзяржаўнасьці і іх хутка вынішчылі суседзі.

Самым булдосным было племя, якое бухала па Паўднёвай і Цэнтральнай частцы Беларусі. Яны нажыраліся так, што ў іх дрыгаліся ўсе рукі і ногі. За гэтую яскравую асаблівасьць прадстаўнікі роду атрымалі назву «дрыгавічы».

Аднак калыскай беларускай дзяржаўнасьці сталі самыя агрэсіўныя складнікі беларускага этнасу. Калі яны налізваліся да сьвінячага візгату, то пачыналі касець, або па-старабеларуску «крывець». У такім стане яны былі гатовыя на любыя ўчынкі: то курган насыпяць, то суседзяў перамочаць, то пачынаюць прыносіць ахвяры паганскаму богу Ярылу. За гэта іх і празвалі «крывічамі». З крывічамі ў момант акрывеньня ніхто ня здольны быў справіцца, таму яны хутка сталі дамінаваць на тэрыторыі Беларусі.

Вядомым сабутэльнікам крывічоў было племя літва (ад сл. *ліць, наліваць*), якое час ад часу зьбірала вялікія бухачы і прастаўлялася ўсім сваім суседзям. Такім чынам, перабухаўшыся між сабой (гісторыкі называюць гэты працэс этнагенэзам), славяне і балты заклалі пачаткі беларускай нацыі ●

**Ярмола Саганска-Чаропскі,**
гісторык-нарколяг

# Арбузік і Бябешка

## як Рэгвэда славянафільства





Існуюць у дзіцячай літаратуры постаці, з вобразаў якіх кланіраваліся цэлыя генэрацыі савецкіх кіндэраў: Міколка-паравоз, Тымур і ягоны ганг, Дзяніс Караблёў... Выстаўлены на гэтым ВДНХ і Бябешка з Арбузікам – сувэніры 80-ых. Пакуль відэасалёны не раскруцілі Фрэдзі Крюгера з Эмануэль, кожны піянэр раўняўся на пэрсанажы казкі Скобелева. Аднак, з вышыні сёньняшняга дня высьветлілася, што бебешкеніяда была ня проста байкай пра двух малалетак, якія так ненавідзелі прыроду, што сьцерлі з твару плянэты цэлую пароду зеленахвостых. У сьнежні мінулага году на старонках *Народнай Газеты* зьявіўся опус аўтара Б&А *«Вехи литературного процесса в Беларуси XX века и позиция писателя»*, дзе хросны бацька Бябешкі колецца, што ўсе ягоныя кнігі нашпігаваныя палітыкай і ідэалёгіяй. Скобелеў – паборнік паходу супраць антынароднай змовы, якую фабрыкуюць габрэі-алігархі, камуністы-інтэрнацыяналісты і дэмакраты-пісакі з Пэн-клюбу. Каб сарваць трэнінгі пархатых амэрыканоідаў, трэба аб'яднацца вакол нацыянальнага лідэра, комплексам паходжаньня на якога церпяць А.Р. і Сталін. Зразумела, падчас брэжнеўска-гарбачоўскага фармалізму такія фокусы прапіхнуць у друк было немагчыма, таму шмат што ў эпапеі пра зеленахвостых Скобелеву прыходзілася выкладаць эзопавай феняй. Разумець жа гэтую эпахальную пісаніну сёньня трэба насупным чынам.

Усё добра ў губэрнскім горадзе, дзе далёка ад рысы аселасьці, пад ценем двухгаловага арла добра жывуць кадэт Ягонай Аўгусьцейшай Вялікасьці Бябешкін і сын купца трэцяй гільдыі Арбузаў-Мамантаў. Аднак адсутнасьць моцнага выразьніка нацыянальных інтарэсаў зрабіла горад ахвярай масонскага крыміналу. Пачалі зьнікаць дваранскія дзеці. За хваляй выкраданьняў стаяць ізуверы-чырвонапузыя – агенты Камінтэрну.

Арбузаў-Мамантаў і Бябешкін уздымаюць праваслаўнае саслоўе на подзьвіг. Нарад герояў прабіраецца ў логава бандыцкага Інтэрнацыяналу. Аказваецца, што славянскіх дзетак кідалі ў казэматы ЧэКа, пасьля чаго яны йшлі на мацу бонзе Дулярысу.

З дапамогай забароненай усімі канвэнцыямі бактэрыялягічнай зброі (нэрвова-паралітычная інфлюэнцыя Чых) героі павяргаюць выродкаў і аздараўліваюць клімат на Радзіме. Змова задушана. Вось як мала было для гэтага патрэбна – моцна рукі! Канец ●





# Мір халупам, вайна «Палацам»!

НАВІНКІ
Газэта для здаровых людзей

М

ПРЭЗЭНТУЮЦЬ АКЦЫЮ

## РОК-ГІЛЬЯТЫНА

ПРЫМІ ЎДЗЕЛ У ВЫЗНАЧЭНЬНІ САМЫХ ПРАВАЛЬНЫХ РОК-ПРАЕКТАЎ БЕЛАРУСКАЙ СЦЭНЫ 2000 ГОДУ!

АНКЕТА
ДЛЯ ЎСЕНАРОДНАГА ГАЛАСАВАНЬНЯ

1. Горшы гурт году:
2. Самы нецікавы альбом:
3. Самая адстойная песьня:
4. Самы бессэнсоўны тэкст:
5. Самы беспантовы кліп:
6. Музычны правал году:
7. Прапануй сваю намінацыю:

ВЫРАЖЫ ГЭТЫ КУПОН І ДАШЛІ НА АДРАС:
220134 Менск, п/с 33.

Першыя сорак дасылаўшых будуць запрошаныя на ўрачыстую цырымонію разьвянчаньня аўтарытэтаў «Рок-Гільятына'2000».

ПЕРАМОЖЦЫ БУДУЦЬ ПРЫНАРОДНА ГІЛЬЯТЫНАВАНЫЯ Ў ПЕРШУЮ НЯДЗЕЛЮ ЛЮТАГА 2001.

**Рэдакцыі газэты *Навінкі* і *Музыкальной газеты* абвяшчаюць першую нацыянальную акцыю разьвянчаньня аўтарытэтаў РОК-ГІЛЬЯТЫНА'2000. Шляхам усенароднага апытаньня будуць вызначаныя пераможцы ў шэрагу намінацыяў.**

**Публічнае гільятынаваньне пераможцаў адбудзецца пры вялікім сьцячэньні журналістаў і цікаўных гледачоў напачатку лютага. На шоў будуць запрошаныя лідэры беларускага року, кіраўнікі вядучых гуказапісваючых кампаніяў і журналісты. Дзеля выключэньня правакацыяў і спэкуляцыяў вызначэньне патэнцыйных ахвяраў «РОК-ГІЛЬЯТЫНЫ» будзе праводзіцца самімі слухачамі.**

**ЗАПРАШАЕМ КОЖНАГА ПРЫНЯЦЬ УДЗЕЛ У ВЫЗНАЧЭНЬНІ САМЫХ ПРАВАЛЬНЫХ РОК-ПРАЕКТАЎ БЕЛАРУСКАЙ СЦЭНЫ 2000 ГОДУ!**

**Падвядзеньне вынікаў шырокага адкрытага ўсенароднага апытаньня адбудзецца праз тыдзень пасьля «Рок-каранацыі» на ўрачыстай цырымоніі РОК-ГІЛЬЯТЫНА'2000.**

**Запрашаем вас далучыцца да акцыі ў любой прыдатнай форме!**

**Кантакты:**
**тэл.: (017) 222-08-94**
**220134 Менск, п/с 33**
**e-mail: sanitar@tut.by**

# Гіронія лёсу або Зь лёгкай парай-2

